© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Вучні малодшых класаў у Вульцы Выганоўскай старанна чысцяць зубы спецыяльнай пастай, якая забяспечвае маладыя зубы ад псавання.
Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 48 (1216) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 30.XI.1980 г.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# СТАРОЕ ДАБРО ЗАБЫВАЕЦЦА

## НАРОДНАЯ КАЗКА

Мужык выбіраўся малаціць. Рана ён паснедаў, узяў цэп у рукі, мяшок і пайшоў да клуні.

Раптам чуе, як паляўнічыя выганяюць ваўка з лесу.

Воўк забег на гаспадарскі панадворак і пачаў прасіць мужыка, каб той яго схаваў. Мужык кажа:

— Куды я цябе схаваю?

— У мяшок, — адказвае воўк.

Мужык распасцёр мяшок і воўк скочыў у яго.

Выбеглі паляўнічыя з лесу і пытаюцца ў гаспадара, ці ён не бачыў ваўка. Той адказвае:

— Не бачыў.

Паляўнічыя пакруціліся, памітусіліся і пайшлі ў лес далей.

Калі ўсё ўціхла, мужык кажа ваўку:

— Вылязай з мяшка.

Ён развязаў мяшок і воўк з яго выпаўз. Тады воўк кажа:

— Я цябе з'ем.

— Ці ж ты адурэў, — здзіўляецца мужык, — я ж цябе выратаваў ад смерці, а ты мяне з'есці хочаш!

— Старое дабро забываецца, — адказвае яму воўк.

— Як жа гэта так? — пытаецца мужык.

— Калі ты гэтаму не верыш, — адказвае воўк, — то хадзем разам і папытаемся ў сустрэчных звяроў.

Мужык згадзіўся і пайшлі яны разам.

На выгане сустрэлі старую кабылу. Пытаюцца ў яе:

— Чаму ты такая худая?

— Як была маладая, — адказвае кабыла, — я была бадзёрая і сільная, ніколі гаспадара не пакідала, прывозіла яго з карчмы п'янага, прывяла яму дванаццаць жарабят. Гаспадар мяне добра карміў, пільнаваў, каб злодзеі не ўкралі. А цяпер я старая, нядужая, дык ён мяне не хоча нават у хлеў пусціць, выгнаў, каб ваўкі з'елі.

— А што? Чыя праўда? — кажа воўк.

Мужык адказвае яму, што да трох разоў штука, трэба папытацца яшчэ іншых звяроў.

Ідуць яны далей. Сустракаюць ляжачага пад хатай сабаку. Быў ён худы, глухі і стары. Пытаюцца ў яго:

— Як жывеш, сабака?

— Якое гэта жыццё, — адказвае сабака. — Як быў малады, цэлымі начамі бегаў па панадворку і пільнаваў гаспадарскае дабро. Днямі з пастухамі пасвіў кароў, авечак. Ой, як любіў мяне гаспадар. Карміў добра і абдорваў сваёй ласкай. Цяпер я стары, глухі, не маю сілы пільнаваць панадворак. Дажываю да смерці нікому не патрэбны. Ніхто нават на мяне і не гляне.

Тады воўк кажа:

→





© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



— А што, ці старое дабро не забываецца?

Мужык прапануе запытацца яшчэ ў трэцяга звяра.

Пайшлі яны далей. Сустракаюць лісу. Мужык затрымаў яе і запытаўся:

— Ты ліса — разумная галава рассудзі нас.

— А што такое? — пытаецца ліса.

— А вось такое, што я ваўка схаваў ад паляўнічых, а ён цяпер хоча мяне з'есці. Воўк кажа, што старое дабро забываецца.

Тады ліса пытаецца:

— Як жа ты яго схаваў, куды?

Мужык расказаў лісе, як было. Ліса параіла, каб воўк улез у мяшок, а мужык яго завяжа.

Воўк улез у мяшок, мужык яго завязаў, тады ліса і кажа:

— А цяпер, чалавеча, правучы ваўка, каб не забываўся, хто яму дабро робіць.

Узяў мужык цэп у рукі і так і зрабіў.

*Казка запісана ад Васіля Петручука, 71-гадовага жыхара вёскі Крывая. Апрацаваў М. Л.*

**В. Бірукоў**

# Прыгоды коціка Пушка

Жыў у адным двары коцік Пушок.

Раніцай выходзіў ён на двор са сваёй мамай кошкай і прагульваўся. Асцярожна ставіў Пушок свае лапы на зямлю, а на дварэ дзівіліся:

— Ну я-ак падобны! Я-ак падобны! — сакаталі куры.

— На ка-ка-го? — пытаўся певень.

— На сваю маму. На сваю маму, — адказвалі куры.

Прывык да гэтага і Пушок. I калі пыталіся, на каго падобны, адказваў:

— На маму.

Але аднойчы...

Аднойчы сядзеў Пушок на ганку. Убачыў вераб'я і сказаў:

— Я цябе злаўлю.

— Дзівак, — сказаў верабей і ўспырхнуў на дрэва.

— Усё роўна злаўлю і з'ем, — сказаў коцік і пачаў караскацца за вераб'ём.

— Не па чыну, — сказаў верабей і перапырхнуў на тонкую галінку.

Коцік — за ім.

Але не паспеў ён зрабіць і некалькіх крокаў, як галінка захісталася.

— Ммяяяуuu! — залемантаваў Пушок і паляцеў уніз, у лужыну.

— Хто?! — падскочыла парасё, якое драмала ў лужыне.

Зірнула на кацянё і зарагатала:

— Ха-ха-ха! На каго ж ты падобны?

— На ма... — па прывычцы хацеў сказаць Пушок.

Але паглядзеў на сваё футра і сказаў:

— На цябе! Абое мы аднолькавыя.





© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

**Г. Снегіроў**

# Пясцовая зямля



1

Сярожа жыве ва Уладзівастоку, на беразе мора. Над вуліцамі там лётаюць чайкі і зусім не баяцца трамваяў.

Сярожа ўжо вялікі. Ён кожны дзень ходзіць у порт і глядзіць на караблі.

Аднойчы ў порце стаяў вялікі карабель. На караблі рыхтаваліся да адплыцця. Па палубе хадзіў капітан і пазіраў на гадзіннік. Потым капітан паглядзеў на бераг і ўбачыў Сярожу:

— Ты чаго стаіш? Хадзі сюды хутчэй, мы адплываем.

Сярожа ніколі не бачыў гэтага капітана. Але калі яго паклікалі, пайшоў.

І Сярожа па трапе ўзышоў на карабель.

2

Карабель ішоў недалёка ад берага. Сярожу вельмі хацелася даведацца, што там на беразе. Ці жыве хто? Або, можа, адны звяры? Але з карабля нічога не разгледзіш.

На палубу выйшаў матрос з біноклем.

— Хочаш паглядзець? — спытаў матрос і даў Сярожу бінокль.

Сярожа спачатку ўбачыў у бінокль блізка-блізка чайку. Яна ляцела над морам. Раптам чайка склала крылы і каменем упала ў ваду. Калі чайка ўзляцела, у дзюбе ў яе блішчэла срэбная рыбка.

Потым Сярожа падняў бінокль і ўбачыў бераг. На беразе ляжала лодка. Каля лодкі сядзеў чалавек і напраўляў сець. У кустах гуляла белая каза. Каза глядзела на карабель і жавала траву.

Падзьмуў вецер. Карабель моцна ківала, і ў Сярожы закруцілася ў галаве. Выйшаў кок і даў яму іржаны сухар. Сярожа глядзеў на мора і грыз сухар, як сапраўдны марак.

Хвалі ўзнімаліся ўсё вышэй і вышэй. Вада перахлыствала праз борт і залівала палубу.

3

Раніцай карабель падышоў да вострава. Да берага прыплыла лодка, і Сярожа пайшоў пагуляць. Сярожа збіраў на беразе каменьчыкі і не заўважыў, як зайшоў у глыб вострава. Там стаяў слуп з дошчачкай. На ёй было напісана: „Хадзіць па востраве ў гумовым абутку забаронена“. Але Сярожа яшчэ не ўмеў чытаць і таму пайшоў далей.

На гэтым востраве жылі пясцы, яны баяліся паху гумы.

Сярожа бачыў толькі, як яны высоўваюць свае насы і вушы. Сярожа крочыў і крочыў...

Мора ўжо схавалася за скаламі, і тут Сярожа ўбачыў хатку і рыжую дзяўчынку. Дзяўчынка стаяла каля вядра і званіла ў медны званочак. Сярожа падышоў да яе.

— Ой! — сказала дзяўчынка. — Скідай боты!

Аказваецца, дзяўчынка клікала пясцоў на абед, а яны баяліся Сярожкавых ботаў. Сярожа зняў боты, але пясцы ўсё роўна не падыходзілі: яны толькі выглядвалі з-за каменняў.

— Ідзі ў хату! — сказала дзяўчынка. — Я зараз прыду.

Сярожа ўзяў свае боты і пайшоў



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

у хату. Тады пясцы з усіх бакоў пабеглі да дзяўчынкі па ежу. Тут былі і бурыя, і шэрыя, і белыя, і нават блакітныя пясцы. Сярожа налічыў іх дзесяць. Далей ён лічыць не ўмеў. А пясцоў было ў пяць разоў больш.

4

Дзяўчынка накарміла пясцоў і спытала Сярожу, як яго завуць.

— Сяргей, — адказаў Сярожа. — А цябе як?

— А мяне — Наташа.

Сярожа расказаў Наташы, як яго паклікаў капітан, і як ён паплыў на караблі з дому, і што ён ужо вялікі і восенню пойдзе ў школу. Наташа сказала Сярожу:



— Хутка прыедзе мой тата. Ён цябе завязе дадому.

— А хто твой тата?

— Мой тата зверавод.

Сярожа здзівіўся:

— Ён што, звяроў водзіць?

Наташа засмяялася:

— Не водзіць, а разводзіць.

І яны яшчэ больш пасябравалі.

У гэты час за скаламі загудзеў гудок на караблі. Але Сярожа не пайшоў на карабель. Яму было добра і на востраве.

5

Ноччу быў шторм. Дзьмуў моцны вецер. Увесь дом дрыжаў, і чуваць было, як вохкаюць хвалі. Сярожу прыснілася, што Наташу здзьмухнула ветрам у мора і яна ўтапілася. Яму зрабілася страшна. Ён прачнуўся.

Было відна і ціха. Наташа распальвала агонь у печцы.

Сярожа вельмі ўцешыўся, што Наташа жывая. Пра сон нічога не сказаў. Яму нават не хацелася пра гэта ўспамінаць.

Яны паелі і пайшлі да мора.

6

Прайшло тры дні, а Наташын тата ўсё не прыязджаў. Ежы засталося зусім мала. Наташа і Сярожа хадзілі па беразе і шукалі рыб. Шторму больш не было, і рыбу не выкідвала на бераг.

— Ведаеш, — сказала Наташа, — заўтра пойдзем на птушыны базар, назбіраем яек.

Раніцай яны пайшлі ўздоўж берага на другі канец вострава. Спачатку Сярожа пачуў здалёк шум. Ён падумаў, што квакае вельмі многа жаб.

Яны падышлі бліжэй да скал. Скалы былі белыя ад птушак. Птушкі голасна крычалі, і Сярожа нават не чуў, што яму гаварыла Наташа. На кожным выступе скалы, у кожнай ямачцы сядзелі кайры.

Адна кайра паляцела ў мора і пакінула на зямлі цёплае яйка. Сярожа падняў яго і аддаў Наташы.

Яны хутка назбіралі поўны ко-

*(Працяг на стар. 7)*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


ПАГЛЫБЛЯЙ

СВАЕ ВЕДЫ


## НАЙСТАРЭЙШЫ ДАРОЖНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У Коніне можна ўбачыць найстарэйшы ў Польшчы дарожны слуп-паказальнік, выкаваны з пясчаніка. Паходзіць ён з 1151 года. Слуп паказваў палову дарогі паміж Калішам і Крушвіцай.

А ў Варшаве, у самым цэнтры, на скрыжаванні вуліцы Маршалкоўскай з Алеямі Іерусалімскімі пастаўлены гранітны слуп — паказальнік, на якім напісана адлегласць у кіламетрах да найбольшых гарадоў Еўропы, а таксама паміж большымі гарадамі Польшчы.

На двух сценках гэтага слупа пададзена адлегласць ад Варшавы да большых гарадоў у Польшчы, а на двух іншых — да еўрапейскіх гарадоў. Як вынікае з інфармацыі на слупе, найдалей ад Варшавы ў Еўропе знаходзіцца сталіца Ісландыі Рэйк'явік — 2771 км, потым сталіца Партугаліі Лісабон — 2633 км, сталіца Грэцыі Афіны — 1606 км. Да Масквы з Варшавы — 1122 км. А найбліжэйшымі сталіцамі ад Варшавы з'яўляюцца Прага і Берлін — 518 км.

## ПАМІДОРЫ НА ДРЭВАХ

У Японіі частку памідораў збіраюць проста з дрэва. Спецыялісты апрацавалі новы спосаб вырошчвання памідораў у шклярнях. Гэтыя памідоры шматгадовыя, вырастаюць у высокія дрэвы і вельмі добра пладаносяць. Напрыклад, двухгадовы куст дасягае паўтара метра ў вышыню і дае каля 5 тысяч штук памідораў.

## ЧЫСТЫ КАНТЫНЕНТ

Яшчэ нядаўна Антарктыду называлі чыстым кантынентам. Але цяпер ужо ўдзельнікі навуковых экспедыцый сцвярджаюць, што нават тут, у адлегласці тысяч кіламетраў ад прамысловых цэнтраў, павялічылася ў паветры колькасць атрутных рэчываў, асабліва серы. Больш таго, Антарктыду пачынаюць наведваць турысты. І па іх застаецца смецце.

## МАЛЫШ

„Немаўлятка" кіта адразу пасля нараджэння важыць 2 тоны і мае шэсць метраў даўжыні. Штодзень яно папраўляецца на 100 кілаграмаў і падрастае на 5 см. Дарослыя кіты могуць важыць нават трыццаць тон.

## КОЛЬКІ ВАЖЫЦЬ ХМАРА

Савецкія метэаролагі апрацавалі спосаб вылічэння вагі дажджавой хмары. Аказалася, што ў хмары сярэдняй велічыні знаходзіцца ад 30 да 300 тысяч тон вады.

## НАЙБОЛЬШ ВЫТРЫМАЛЫ НА СУШУ

Агульна вядома, што найбольш вытрымалай на сушу жывёлай з'яўляецца вярблюд. Ён можа вытрымаць без піцця два тыдні. Але мала хто ведае, што ў Мексіцы ёсць гатунак вавёрак, якія могуць вытрымаць без вады нават 100 дзён.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 299, кв. 2. Галіна Шэндзік, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, в. Тушэвічы, Слонімскага раёна, Гродзенскай вобласці. Святлана Сталярчук, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800 г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Сацыялістычная, 22. Уладзімір Акуліч, вучань 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Куйбышава, 21. Людміла Чарнуха, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Сацыялістычная, 36. Ольга Маркач, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 162, кв. 17. Валянцін Карповіч, вучань 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Анны Кароль, 18. Ірына Рашкоўская, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Сацыялістычная, 34. Света Свірэпік, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Нагорная, 11. Лена Пойша, вучаніца 7 класа.

*(Працяг са стар. 5)*




шык яек і, задаволеныя, пайшлі дадому.

7

Наташа чакала тату і кожны дзень смажыла яешню з кайрыных яек. Пясцы ўжо не баяліся Сярожы, і ён памагаў Наташы іх карміць.

Сярожа прывык жыць на востраве. Яму нават хацелася, каб Наташын тата не прыязджаў ніколі.

Але тата прыехаў і вельмі здзівіўся, калі ўбачыў Сярожу. Наташа расказала тату, як Сярожа прыплыў на караблі, і што яму трэба хутчэй дадому, бо ён спозніцца ў школу.

І тата адвёз Сярожу назад ва Уладзівасток. Дома мама сварылася на Сярожу. Сярожа расказаў ёй пра Пясцовую зямлю. Мама то плакала, то радавалася: яна была рада, што Сярожа знайшоўся.

8

Цяпер Сярожа ходзіць у школу. На сцяне ў яго вісіць карта. На карце, пасярод сіняга мора, Сярожа намаляваў чырвоны кружок — гэта востраў, дзе жыве Наташа. Ён завецца Пясцовая зямля.

Пасля ўрокаў Сярожа кожны дзень ходзіць у порт і глядзіць на караблі. Ён чакае вясны. Вясною, калі скончацца заняткі ў школе, ён абавязкова папросіць якога-небудзь капітана, каб завёз яго на Пясцовую зямлю.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Настаўнік геаграфіі:
— Дзе заўсёды холадна?
Вучань:
— У халадзільніку.

* * *

Настаўнік гісторыі:
— Што ты можаш расказаць аб першабытных людзях?
Вучань:
— Першабытныя людзі хадзілі на задніх нагах. Ад гэтага ў іх паявіліся рукі і розум.

## ЗАГАДКІ

*Белы, але не цукар,*
*Упаў на зямлю без груку.*

*Без паперы, без алоўка,*
*А малюе вельмі лоўка.*

*З карнізу слязлівы маркіз*
*Уніз галавой павіс.*

Адгадкі: снег, мароз, лядзяш.

## АДГАДНКА



**Хто зрабіў такую прыгожую кармушку?**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020